

магілёўскі **Выбар**

№ 21 Снежань 2012 г.

*Абласная Дэмакратычная Трыбуна*

# ДАРОГУ ПАБУДАВАЛІ, ПРА ЛЮДЗЕЙ ЗАБЫЛІСЯ

Жыхары вёскі Рудня Бялыніцкага раёна спрабуюць дамагчыся ад мясцовых уладаў абсталявання пешаходнага пераходу праз аўтатрасу Мінск –Магілёў у накірунку аграгарадка Вялікая Машчаніца, каб мець магчымасць наведваць амбулаторыю і краму ў гэтым населеным пункце. Мясцовыя ўлады пакуль на звароты грамадзян рэагаваць не жадаюць. Між тым большасць насельніцтва вёскі Рудня складаюць састарэлыя пенсіянеры, аб вялікім клопаце дзяржавы пра якіх пастаянна сцвярджаюць дзяржаўныя СМІ.

Пасля завяршэння будаўніцтва аўтатрасы Магілёў – Мінск для таго, каб наведаць амбулаторыю ў аграгарадку Вялікая Машчаніца, жыхары вёскі Рудня павінны рабіць аб’езд у чатыры з паловай кіламетры па шашы Бялынічы-Быхаў і Бялынічы-Машчаніца. Між тым адлегласць напрасткі да амбулаторыі складае крыху больш за кіламетр, аднак пры будаўніцтве аўтатрасы будаўнікі не паклапаціліся пра абсталяванне пешаходнага пераходу, ды і аўтатраса з абодвух бакоў агароджана сеткай.

- Мы вымушаны зараз рабіць круг у чатыры з паловай кіламетры, каб наведаць амбулаторыю альбо магазін у Вялікай Машчаніцы, прычым ісці даводзіцца па шашы Бялынічы-Быхаў, а пасля і Бялынічы-Машчаніца, пра нейкі бяспечны рух гаварыць не даводзіцца. – распавядае жыхарка вёскі Рудні Тамара. – Між тым жывуць у нас у асноўным састарэлыя пенсіянеры, для іх гэта вялікая праблема. Мы звярталіс за дапамогай у сельсавет, у Бялыніцкі райвыканкам, адтак там адказваюць, што нічым дапамагчы не могуць, хадзіце па шашы вакол, бо праектам пры будаўніцтве аўтатрасы ніякі пешаходні пераход не прадугледжаны. Але ж яго можна зрабіць альбо над трасай, альбо падземным, людзей з Рудні, Асаўца і іншых вёсак у Машчаніцу ходзіць шмат.



Яшча адзін жыхар Рудні, часова не працуючы Мікалай, звяртае ўвагу на тое, што пачынаючы з вясны і да глыбокай восені вельмі шмат людзей займаецца нарыхтоўкай грыбоў і ягад, таму пешаходны пераход вельмі неабходны і ім.

- Паблізу ад нашай вёскі добрыя месцы для збору грыбоў і ягад, вельмі шмат людзей займаюцца іх зборам, каб неяк палепшыць сваё жыццё, – кажа Мікалай. – Безумоўна, навокал яны хадзіць не будуць, а проста пашкодзяць дротаваю агароджу і будуць перабягаць праз аўтатрасу. Ці не прасцей і бяспечней зрабіць пешаходны пераход?

Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч кажа, што пасля непрадуманай рэканструкцыі трасы Мінск – Магілёў у мясцовых жыхароў сапраўды з’явілася шмат праблем.

- Аўтатрасу будавалі аўральнымі тэмпамі, таму нарабілі процьму недарэчнасцяў, а ў выніку павінны пакутваць людзі. Тыя ж састарэлыя жыхары Рудні зараз не ведаюць, як дабрацца да амбулаторыі ў Машчаніцы, павінны хадзіць навокал па шашы. Адзіны школьнік з вёскі Воліўка таксама ходзіць са школы ў Машчаніцы па шашы Машчаніца - Бялынічы, дзе пастаянна рухаецца транспарт, зроблена абсалютна недарэчная развязка на Быхаў. Дарэчы, супрацоўнікі ДАІ, да якіх я звяртаўся, прызнаюць наяўнасць шматлікіх праблем. Яны кажуць, што самі неаднаразова звярталіся ў вышэйстаячыя інстанцыі, але на іх звароты таксама пакуль ніяк не рэагуюць.

***Ірына Беганкіна***

# В КОМИССИИ ИЗ ПЯТИ ЧЕЛОВЕК ТРИ ЗАМА И ОДИН ЧЛЕН

***Заместитель председателя Могилёвского облисполкома Владимир Кравцов сложил с себя полномочия и официально сдал бразды правления экономикой областью. Это связано с его избранием депутатом Палаты представителей. Правда, он по-прежнему будет заниматься экономическими вопросами, но уже в стенах парламента. Пётр Рудник, глава облисполкома, пожелал Владимиру Васильевичу успехов в новой деятельности.***

В СМИ уже сообщалось о том, что депутат от Кричевского избирательного округа №83 (Климовичский, Кричевский и Хотимский районы) В.В. Кравцов возглавил в парламенте Постоянную комиссию по экономической политике. Данная комиссия занимается регулированием законодательных вопросов в сфере инвестиционной деятельности, государственной собственности и акционирования. С учётом этого прогнозировалось, что членов комиссии ожидает значительный объём работы. Ближайшие годы пройдут для белорусского общества под знаком распродажи предприятий, недр, земельных участков. Денег в стране катастрофически не хватает, поэтому для пополнения бюджета на аукцион выставят общенародное достояние.



Спросят ли при этом сам народ — вопрос, как говорится, риторический. Возможно, его и пригласят поучаствовать в предстоящей делёжке, но что ему делать у барского стола с нынешними мизерными доходами? Только наблюдать, как другие, более удачливые участники приватизации становятся владельцами заводов, газет, пароходов.

Понимая всю сложность перераспределения государственного пирога на лакомые куски частной собственности, желающих попасть в созданную Постоянную комиссию по экономической политике было совсем немного. Она не случайно стала одной из самых малочисленных по составу среди остальных комиссий. Если в других числятся по 9-10 человек, то сюда пожелали войти всего 5 депутатов. Кто же эти рисковые люди?

Состав Постоянной комиссии по экономической политике состоит из председателя (Кравцов В.В.), трёх его заместителей (Валюшицкий В. И., Колтунов Н.А., Щепов В.А.) и одного члена (Кубракова Л.П.). Как видим, в комиссии всего один член, это Кубракова Людмила Петровна. Мужчины не пожелали уступить ей руководящие места и взяли себе более солидные должности. Но соответствуют ли они своему новому статусу? Давайте разберёмся с персональным составом комиссии.

Л.П. Кубракова до своего депутатства работала специалистом Департамента администрации ОАО "БПС-Сбербанк". В.И. Валюшицкий — директор ОАО "Брестский центральный универмаг". Н.А. Колтунов — директор совместного белорусско-британского предприятия "Кровля" в Осиповичах. В.А. Щепов — декан экономического факультета УО "Гомельский государственный университет имени Франциска Скорины". Судя по всему, практическое знакомство с реальной экономикой имеется только у Владимира Кравцова. Можно считать, что он по праву стал во главе этой комиссии. А вот к его соратникам у нас такого доверия нет. Смогут ли они компетентно заниматься регулированием законодательных вопросов госсобственности и акционирования, мы не знаем. Вполне вероятно, что уже в следующем году на них свалится такая гигантская ответственность, которая окажется им просто не по силам. Задуматься об этом должны и их избиратели, многие из которых трудятся на пока ещё не приватизированных предприятиях. Ведь грандиозный передел народного достояния затронет интересы всех без исключения членов общества.

***Александр ВЛАД***

## Только факты

На Могилевщине номинальная начисленная зарплата в октябре 2012 года составила Br3 887 тыс.

Свыше Br4 млн. за октябрь 2012 года заработная плата сложилась в Бобруйске (Br4219,1 тыс.), Могилеве (Br4188,8 тыс.), Костюковичском (Br4148,4 тыс.) и Осиповичском (Br4036,0 тыс.) районах.

# ПИВА ШАРИКОВУ – НЕ ПРЕДЛАГАТЬ, ДЕНЕГ БЫХОВСКИМ ЧИНОВНИКАМ – НЕ ДАВАТЬ



*Сергей Антонов*

**Восемь последних лет единственный в Восточной Беларуси древний замок-крепость пребывал в запустении. И вот чиновники от культуры, наконец, снизошли до Быховского замка. На реставрацию и восстановление замка в 2013 году из госбюджета будет выделено 1,5 миллиарда рублей.**

Деньги, по заявлениям властей, пойдут на консервацию уникального памятника культуры и архитектуры, а также разработку проектно-сметной документации по его реставрации и восстановлению. В ближайшее время планируется провести обследование состояния замка, навести на его территории порядок и приступить к археологическим раскопкам.

Работы по поиску артефактов возглавит заведующий кафедрой археологии и специальных исторических дисциплин Могилевского государственного университета имени А. Кулешова доктор исторических наук, «сенатор» Игорь Марзалюк.

Планитуется, что раскопки завершатся весной 2013 года, а обнаруженные экспонаты будут переданы в Быховский краеведческий музей для создания экспозиции в возрожденном Быховском замке.

Пока в замке еще «конь не валялся», а власти уже рисуют радужные картинки его будущего процветания: в восстановленном замке, по мнению оптимистично настроенных «любителей старины», разместится экспозиция местного краеведческого музея, районная библиотека и выставочные залы, а во дворе будет работать концертная площадка под открытым небом.

Что касается организации концертов и народных гуляний, то в этом белорусским властям нет равных. Однако слепить из соломы улыбающееся чучело колхозника и восстановить средневековое здание – разные вещи.

Разрушения замка зашли так далеко, что полтора миллиарда «зайчиков» вряд ли смогут существенно повлиять на состояние национального памятника архитектуры. К тому же еще неизвестно, как будут использованы выделенные средства.

Ясно одно: доверить распоряжаться деньгами быховским чиновникам – загубить доброе начинание на корню. Ведь именно с легкой руки быховских властей замок был передан в аренду частнику, по вине которого в старинной крепости произошел пожар, а виновные так и не наказаны. Более того, они продолжают занимать высокие посты в списке местной вертикали и «депутатствовать», а горе-арендатор преспокойно уехал из Быхова.

Да и восемь лет, в течение которых о замке никто не вспоминал, не прошли даром: неподалеку от заброшенного памятника архитектуры был воздвигнут дворец нового образца – резиденция председателя райисполкома. Эта стройка прошла без громких заявлений в прессе и жалоб на нехватку бюджетных средств.

Удивляют и радостные возгласы местных краеведов и областных знатоков истории. Восемь долгих лет эти «борцы» за историческое наследие Беларуси о разрушенном замке и не вспоминали, сидели также тихо, как мыши под веником, и зашевелились лишь после известия о выделении средств.

А заявления о том, что времени осталось мало, а сделать предстоит много, и вовсе настораживают, ибо наводят на мысль об оче дном аврале, как лучшем способе разворовать бюджетные средства.

Отсюда простой и логичный вывод: деньгами, выделенными на восстановление замка, ни в коем случае не должны распоряжаться местные власти. Пусть все останется в ведении столичного начальства, а быховские чиновники пусть занимаются замком без прямого доступа к бюджетной «кормушке».

Если такое решение будет принято, то их «интерес» к памятникам национальной архитектуры резко упадет, а у Быховского замка появится реальный шанс быть восстановленным, надеемся, не по примеру Лидского.

***Сергей Антонов***

## Беларусь пазычыла яшчэ $110 мільёнаў

Грошы ўзятыя на 3,5 года пад 7,5% гадавых.

Міністэрства фінансаў Беларусі 12 лістапада размясціла два выпускі валютных аблігацый, намінаваных у далярах, пад 7,5% гадавых, паведаміла агенцтва Cbonds. Аб'ём 86-га выпуску склаў $10 мільёнаў. Аб'ём 87-га выпуску — $100 мільёнаў.

Намінал аблігацый — $100 тысяч. Бонды былі размешчаны на пазабіржавым рынку ў рамках адкрытай падпіскі.

# “СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ” РУЛІЦЬ ЖКГ, АБО, ЯК ПАВЕЛ ЯКУБОВІЧ “УЕЛ ВСЁ ПРАВИТЕЛЬСТВО”

***20 лістапада 2012 года, А.Лукашэнка, прымаючы з дакладам прэм’ер-міністра М. Мясніковіча, пахваліў рэдактара газеты “Советская Белоруссия” за матэрыял, размешчаны ў газеце, на тэму работы жыллёва камунальнай гаспадаркі г. Мінска.***

***“Павел Якубович, молодец, очень тонко уел все правительство и особенно город Минск, - адзначыў Аляксандр Рыгоравіч. - Хорошо, что средства массовой информации поднимают эту тему, как людей загоняют в частные компании по обслуживанию зданий и помещений. Это, кстати, не только в частных компаниях. Там некие появились товарищества застройщиков, или как они называются. И когда я лично поинтересовался у некоторых людей, они говорят: мы об этом не знаем, нам вот сказали и мы платим дополнительно за это и за то”.***

Падобныя распараджэнні кіраўніка беларускія чыноўнікі ўспрымаюць як абавязковыя для выканання. А гэта значыць, што тым маленькім парасткам лібералізацыі і рэформаў у сферы ЖКГ Беларусі, якія змаглі прабіцца за апошнія дзесяцігодддзі, так і не суджана даць дабротнага насення для памнажэння досведу па ўсёй краіне.

Нягледзечы на існаванне ў Беларусі “Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года”, прынятай пастановай Савета міністраў № 943 ад 14 ліпеня 2003 году, рэформы ў сферы ЖКГ практычна не былі распачаты. А там жа ставіліся задачы давесці долю жыллёвага фонду, абслугоўваемага на конкурснай аснове, за 2006-2010 гады да 60%, а за перыяд 2011-2015 гадоў — да 100% шляхам стварэння прыватных арганізацый у большасці з формай упраўлення шматкватэрнымі жылымі дамамі — таварыствамі ўласнікаў (ТУ).

Канкурэнцыя, па задуме чыноўнікаў, павінна была прымусіць таго ж сантэхніка прыйсці ў патрэбны для заказчыка час, усміхнуцца з парога і ліквідаваць паломку сумленна. Тарыфы на адпаведныя паслугі, па ідэі, павінны былі пайсці ўніз.

Абслугоўванне жыллёвага фонду на конкурснай аснове, увогуле, — еўрапейская практыка. Значная колькасць жыллёвага фонду аб’яднана ў таварыствы ўласнікаў. Вось толькі канкурэнцыя ў сферы камунальных паслуг на парадак вышэйшая. У




кожным сегменце дзейнічаюць дзясяткі арганізацый, і жыхарам толькі прыходзіцца выбіраць найбольш выгадныя тарыфы. І нават так званы хаўс-майстар у пошуках кліента здольны не толькі адрамантаваць кран або разетку, але нават павесіць люстру і выканаць фактычна любую работу дома.

Аднак форма ўпраўлення нерухомасцю праз стварэнне таварыстваў уласнікаў адпаведнай падтрымкі ў насельніцтва Беларусі не атрымала, хоць знешне выглядае, што бар’ераў для яе развіцця з прававога пункту гледжання няма, тым больш, што болей 80% жыллёвага фонду краіны знаходзіцца ў прыватнай уласнасці.

Напачатку 2006 году ў краіне існавала толькі 337 таварыстваў уласнікаў. У асноўным яны былі створаны ў навабудоўлях. На балансе дзяржаўных ЖЭУ знайходзіцца 97% жылых дамоў, астатнія 3% займаюць іншыя формы кіравання — ТУ, КІЗы, ЖБК і інш. Прыватных жа кіруючых кампаній на Беларусі крыху больш дзвюх дзесяткаў (і палова з іх — у Магілёве).

*(Пачатак. Працяг на стар. 5)*

# "СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ" РУЛІЦЬ ЖКГ, АБО, ЯК ПАВЕЛ ЯКУБОВІЧ "УЕЛ ВСЁ ПРАВИТЕЛЬСТВО"

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

Па якасці абслугоўвання і ўтрымання, як і па знешнему выгляду фасадаў, прылягаючых тэрыторый, унутранаму выгляду пад'ездаў, гэтыя дамы значна выдзяляюцца ў лепшы бок ад суседніх, абслугоўваемых дзяржаўнымі ЖЭСамі. І гэта пры тым, што ТУ не атрымоўваюць дзяржаўныя датацыі па памерах ў той колькасці, колькі выдзяляецца сродкаў на раўназначныя жылыя дамы, абслугоўваемыя ЖЭСамі. У Магілёве ёсць нават прыклады, дзе ТУ ўтрымліваюць свае дамы цалкам за кошт жыхароў, без дзяржаўных датацый. Але дзякуючы эфектыўнаму выкарыстаню абсталявання, ашчаднасці жыхароў, памеры плат за камунальныя паслугі ў такіх дамах не перавышаюць памераў для жыхароў дамоў, эксплуатуемых арганізацыямі з атрыманнем дзяржаўных датацый, а ў некаторых выпадках — нават і ніжэй.

Дык чаму ж пры, здаецца, наяўнасці рэальных магчымасцяў па рэфармаванню ЖКГ зрухаў да лепшага так і не адбылося? Чаму праблемы, якія існавалі ў сферы ЖКГ на момант прыняцця закона "Аб мясцовым домаўладанні", нягледзячы на зацверджаную урадам Канцэпцыю, на распрацаваныя шматлікія праграмы ў сферы ЖКГ, на рэалізацыю якіх з дзяржбюджэта і іншых крыніц фінансавання выдзелены аграмадныя сродкі, не зменшыліся, а, наадварот, па некаторых накірунках яшчэ больш абвастрыліся?

Аб вастрыні праблемаў у першую чаргу сведчыць тое, што, згодна са статыстычнымі справаздачамі Міністэрства ЖКГ, узровень пакрыцця плацяжамі насельніцтвам страт на прадастаўленне камунальных паслугаў знізіўся з 42,4% у 2005-м да 25% у 2011-м. Пры гэтым кошты камунальных паслуг для насельніцтва за гэтыя гады ўзраслі ў дзесяткі разоў.

Як паказвае практыка, нягледзечы на тое, што больш 80% жылля з'яўляецца ўласнасцю жыхароў, грамадзяне краіны так і не сталі сапраўднымі гаспадарамі свайго жылля. Адной з прычын гэтага з'яўляецца адсутнасць грамадска-прававых нормаў па кантролю грамадства за якасцю і колькасцю камунальных паслуг, а таксама — адсутнасць эканамічнай матывацыі для жыхароў ва ўпраўленні сваім жыллём.

Першыя парасткі актывізацыі грамадзян па месцы жыхарства з пачатку 90-х гадоў згодна закона "Аб мясцовым самакіраванні", праз стварэнне дамавых і вулічных камітэтаў, іншыя формы самаарганізацыі, намаганнямі чыноўнікаў былі зведзеныя на "не". Бо ва ўзрастаючай актывізацыі насельніцтва існуючая ўлада пабачыла для сябе пагрозу.

А 14 кастрычніка 2010 года, з мэтай кантролю за дзейнасцю кампаній-забудоўшчыкаў і таварыстваў уласнікаў, А.Лукашэнка падпісаў адпаведны ўказ № 538 "Аб некаторых пытаннях дзейнасці таварыстваў уласнікаў і арганізацый забудоўшчыкаў".

Згодна з дакументам, толькі пасля ўзгаднення з мясцовай ўладай могуць быць прызначаны кандыдатуры на пасаду старшыняў праўленняў ТУ і арганізацый забудоўшчыкаў.

Уладам таксама надаецца права выносіць на разгляд агульных сходаў пытанне аб спыненні паўнамоцтваў кіраўнікоў. Мясцовыя чыноўнікі зараз маюць магчымасць прызначаць упаўнаважаных па кіраванню нерухомасцю, калі, па іх меркаваннях, забудоўшчык не забяспечвае захаванасць, утрыманне і эксплуатацыю жылых дамоў.

Як бачым, улады розных узроўняў пры наяўнасці разумення неабходнасці рэфармавання сферы ЖКГ усялякімі спосабамі імкнуцца прытармазіць гэтыя працэсы.

У чым жа справа?

Па-першае, пры пераводзе ЖКГ на новыя формы ўпраўлення і эксплуатацыі жыллёвага фонду па прыкладу заходнееўрапейскіх краін знікне неабходнасць у шматлікіх чыноўніцкіх структурах — ад камунальных аддзелаў пры рай- і гарвыканкамах да чыноўнікаў Міністэрства ЖКГ. А гэта тысячы чалавек, якія проста баяцца згубіць наседжаныя месцы працы.

Па-другое, захаванне формы ўпраўлення і эксплуатацыі жыллёвага фонду праз дзяржаўныя эксплуатацыйныя ўстановы дазваляе шматлікаму чынавенству ўмела хаваць свае недапрацоўкі і некампетэнтнасць, а часта проста і непрафесіяналізм у пытаннях эксплуатацыі аб'ектаў ЖКГ.

А нярэдка бывае, што захаванне старых формаў эксплуатацыі застаецца выгодным для чыноўнікаў, каб схаваць факты карупцыі.

У звязку з Канцэпцыяй развіцця і рэфармавання ЖКГ на 2006-2010 гады быў прыняты шэраг праграмаў, выкананне якіх павінна было станоўча паўплываць на паляпшэнне якасці прадастаўляемых паслуг насельніцтву.

Так, на рэалізацыю Дзяржаўнай праграмы па водазабяспячэнню і водаадвядзенню "Чыстая вада" на 2006-2010 гады было выдзелена 625,8 млрд. рублёў. Выкананне праграмы прадугледжвала развіццё сістэм водазабяспячэння і водаадвядзення, значнае паляпшэнне якасці пітной вады і сцёкавых вод ва ўсіх населеных пунктах краіны. Акрамя таго, для будаўніцтва 9 ачыстных збудаванняў на тэрыторыі краіны ў 2008-2010

*(Заканчэнне на стар. 6)*

# "СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ" РУЛІЦЬ ЖКГ, АБО, ЯК ПАВЕЛ ЯКУБОВІЧ "УЕЛ ВСЁ ПРАВИТЕЛЬСТВО"

*(Працяг. Пачат. на стар. 4, 5)*

гадах Сусветным банкам было выдзелена ўраду Беларусі 60 млн. долараў. Але на працягу 2006-2010 гадоў якасць пітной вады ў бальшыні населеных пунктаў пагоршылася. Нават былы старшыня Камітэту дзяржаўнага кантролю Зянон Ломаць у сваім выступе на паседжанні прэзідыума Савету міністраў, якое адбылось 10 лістапада 2009 года, адзначыў факты пагаршэння якасці пітной вады ў некаторых рэгіёнах краіны.




З мэтай выканання мерапрыемстваў па павышэнню энергаэфектыўнасці і энергабяспекі краіны Рэспубліканскай праграмай мадэрнізацыі сістэмы энергазабяспячэння было прадугледжана на 2006-2010 гады фінансаванне ў памеры больш за 5 млрд. долараў. Але і гэтая праграма была праваленая.

Нават пастанова Савета міністраў па выкарыстанню мясцовых відаў паліўна-энэргетычных рэсурсаў не была паспяхова выканана. У выніку на шматлікіх прадпрыемствах сістэмы ЖКГ сабекошт адной Гкал. цяпла на мясцовых відах паліва аказаўся даражэй, чым ад выкарыстання прыроднага газу.

Да гэтай пары застаецца не вырашанай і праблема так званых "хрушчовак". Для некаторых "хрушчовак" першых серый 50-гадовы тэрмін эксплуатацыі ўжо скончыўся, а ўлады на дадзены момант нават не маюць варыянта вырашэння гэтай праблемы. Прапановы ж грамадскасці, магчымых замежных інвестараў уладамі ўсяляк адмятаюцца...

Беларускія ўлады павінны нарэшце зразумець, што грамадзяне краіны здольныя самі вырашаць свае жыллёвыя патрэбы. Задача ўлады — не перашкаджаць, а ствараць спрыяльныя ўмовы грамадзянам для вырашэння гэтых патрэбаў, як тое робіцца ў цывілізаваных краінах свету.

Вось бы дзе развярнуцца "Советской Белоруссии". Бо пытанні якасці і коштаў камунальных паслуг вельмі хвалююць жыхароў гарадоў і сёл нашай краіны. Глядзіш, і карысць была бы ад газеты.

Але, відаць, гэтая тэма для Паўла Ізотавіча пад забаронай. Без каманды пісаць не можа.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ***

# ЭКС-ГЛАВА НАЦБАНКА: СКОРО В БЕЛАРУСИ БУДЕТ ДРУГОЕ ПРАВИТЕЛЬСТВО

Бывший председатель Национального банка Беларуси Станислав Богданкевич предрекает скорую отставку правительства Михаила Мясниковича. По словам эксперта, на это указывают провальные, с точки зрения экономики, итоги 2012 года.

"Сейчас не выполняются важнейшие показатели в экономике, - сказал Станислав Богданкевич в интервью сайту ucpb.org. - Казалось бы, при снижении цен на газ энергоемкость должна снизиться, а мы только за первое полугодие имеем ее рост на 7 процентов на единицу продукции".

Как отмечает эксперт, вместе с ростом неплатежеспособности субъектов хозяйствования увеличивается как кредиторская, так и дебиторская задолженность: продукция отгружается, но не оплачивается.

"Не оплачивается потому, что у банков проблемы с ликвидностью, и они не могут кредитовать бизнес в прежних объемах и на прежних условиях. В принципе, это правильная политика – предприятия должны сами зарабатывать деньги, выпуская и продавая продукцию, но деньги на выпуск этой самой продукции лежат на складах или заморожены в виде отгруженного, но не оплаченного товара", - отметил экс-глава Нацбанка и добавил: "Проблемы нарастают, но моя личная оценка – эти проблемы не обвальные при условии адекватного управления".

Как известно, Михаил Мясникович был назначен главой правительства Беларуси 28 декабря 2010 года. До этого чиновник возглавлял национальную академию наук.

# МЫ КРАІНА ЦІ ЖАБА-ВАНДРОЎНІЦА?

**"Ворона каркнула во всё воронье горло,**
**Сыр выпал.**
**С ним была плутовка такова".**

*И. Крылов.*




Хто з нас ня памятае казку з дзяцінства пра Жабу-вандроўніцу. А яна аб тым, як гусі-лебядзі збіраліся ў вырай, а разам з імі захацела паляцець і жаба-квакушка. Яна прапанавала гусям узяць палачку ў свае дзюбы за два канцы, а сама ўчапілася сваёй шырокай зяпай пасярэдзіне той палачкі. Калі гусі-лебядзі праляталі над населеным пунктам, людзі са здзіўленнем сталі крычэць, накшталт: ай-яй-яй, хто ж гэта такое прыдумаў? У жабы-вандроўніцы аж дыханне перахапіла ад такога здзіўлення людскага.Ёй так захацелася пахваліцца перад людзьмі, ёй так хацелася, каб народ ведаў, што гэта, менавіта яна, прыдумала такое "дзіва". Ёй хацелася, каб людзі ведалі, якая яна разумная. Яе - ну проста распірала ад гонару за сябе. І ня вытрымала душа "вынаходніцы". Узяла ды квакнула ва ўсё сваё жабінае горла: я-а-а! І… паляцела. Толькі ўжо не з гусямі-лебядзямі, а …ўніз. Да самай зямлі А мо і прама ў сваё застойнае балота.

Ці не напаімінае гэтая гісторыя з жабай-вандроўніцай, паважаны чытач, нешта знаёмае з нашага жыцця? Я дык бачу абсалютнае падабенства таго, як наш галоўны начальнік, не змаўкаючы, пяе ўжо каторы год адну і тую ж песню: мы самыя багатыя, самыя разумныя самыя моцныя, самыя квітнеючыя. І ўвогуле – самыя, самыя. Такія "самыя", што да нас нават едуць за пераймennем вопыту аж з самой Еўропы. А што наконт мо-о-оцы, дык нам няма роўных ва ўсім свеце. А тут нейкі маленькі ды просценькі самалёцік без усялякіх наваротаў, прыстасаванняў – бац… і-і-і кружыў у нябёсах нашай "непрыступнай" аж паўтары гадзіны. Ды яшчэ і падарунак скінуў у падтрымку нашых "отморозков". І назад зляцеў. І ніхто яго нават і не заўважыў. А наш афіцыёз два тыдні "обет молчания" трымаў. Ад сораму на ўвесь свет ды ад такога нечаканага "падарунку" аж "в зобу горло спёрло", як у той вароны.

Ну, а што тычыцца наконт багацця, дык толькі разагналіся добра жыць, а тут грошы скончыліся. І "чарка" падаражэла. Ды на цэлых 50 адсоткаў. Далі электарату пад самы дых. І скварка стала не для ўсіх дасягальная. Каўбасы круцяцца недзе каля сотні тысячаў і вышэй. Хіба што ліверкай закусваць. Дык неяк непрывычна пасля такой "раскошы". Мы ж куплялі яе толькі для "коцікаў" ды "сабачак". Нам увесь час "уцюхвалі" у галавы, што будзем жыць усё лепей ды лепей. А тут бац… і аблом. За што ні вазьмісь - хоць за "тыя самыя яйцы", хоць за хлеб, хоць за малако, хоць за крупы – ад кошту гэтага ды ўсяго астатняга вочы становяцца квадартныя. Аж дых захоплівае. Бо "С каждым днём всё радостнее жить". Пра такія рэчы, як цыгарэты ды паліва для аўто, я ўжо маўчу. Гэта такая "цыцка" ў народа, за якую дзяржава заўжды хапаецца, калі ў яе кішэні становіцца пуста. Ды і долар штосьці "ні з таго ні з сяго" папоўз уверх. Таго і глядзі, хуткасць набярэ такую, што экстрэннае тармажэнне наўрад ці дапаможа. І старэйшы брат чагосці ўсё мацней "нахіляе" – патрабуе вярнуць паўтары мільярда долараў за нейкія там раставральнікі-разбаўляльнікі. Ёпрст. А ўсё з-за чаго?

Лічу, што адказ, вельмі яскравы, ляжыць ў плоскасці той казкі пра жабу-вандроўніцу. Але на байках дзядулі Крылова ніхто з чынавенства не хацеў вучыцца. Нават кіраўнікам вышэйшага рангу не пайшла "впрок" гэтая навука (ігнаравалі, мабыць, у школе дзядулю-байкапісца). А шкада. Бо дрэнна зараз. Люду простаму дрэнна. А каму ж яшчэ?...

На Захадзе ці ў тых жа ЗША не трындзяць пра высокую зарплату. Там яе зарабляюць. Праўда, і ў нас атрымліваюць(!) няхілую "капусту". Аднак далёка ня ўсе. Толькі тая невялікая кучка людзей, якой пасылае той, хто крыху вышэй за Бога. А за што? Ня мне казаць вам.

Унас сапраўды вялікі навуковы і тэхнічны патэнцыял. Зараз, хутчэй за ўсё, можна казаць – быў.

*(Пачатак. Заканч. на стар. 8)*

# МЫ КРАІНА ЦІ ЖАБА-ВАНДРОЎНІЦА?

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

Але яго ня выкарысталі… Яшчэ ў пачатку 80-х я сустрэў свайго аднакласніка, які скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Працаваў на “Інтэграле”. Яшчэ тады ён мне казаў, што распрацавалі мікрасхемы, за якімі вялікая будучыня. Вялікая будучыня сапраўды адбылася. Толькі не ў нас. Бо што такое мікрасхемы? Гэта мабільнікі, лічбавыя фатаапараты, кампутары ды іншая сучасная высокатэхналагічная апаратура. І чыёй вытворчасці падобнай апаратуры мы сёння карыстаемся? Чыёй заўгодна, але толькі не сваёй. Чаму? Што, тлумачыць трэба вам? Я толькі магу паўтарыць тое, што сказалі японцы шмат год таму. А яны сказалі нам, што мы адсталі назаўжды. Раней я яшчэ ў гэта ня верыў. А зараз бачу - за дваццаць год мы шуганулі назад настолькі, што …

Ці вось яшчэ адзін прыклад (агульна вядомы). Прыблізна, гады тры таму (а мо крыху болей – ня гэта важна), сяброўцы-Венесуэле паслалі два дзесяткі аўтобусаў мінскай вытворчасці. Пакуль іх везлі морамі-акіянамі, салёная вада “з’ела “ фарбу. Ад карозіі аўтобусы сталі рыжыя. І каму яны такія патрэбныя? Правільна, нікому! І сябры-венесуэльцы адфутболілі гэты “рыжы метал” назад ў Беларусь…

За васемнаццаць год згубілі ўсё. І самае галоўнае, на мой погляд, адукацыю. Сорамна казаць: у Магілёве на 300 тысяы насельніцтва існуе толькі адзін беларускамоўны клас. І ў ім навучаецца … толькі адна дзяўчынка (!). “Вышэйшы пілатаж”!!!

І прыкладаў такіх – незлічаная колькасць. На кожным кроку. Ад разбураных буйных прадпрыемстваў і да самага апошняга калгаса…

Адным словам, каб не квакалі, як тая жаба, сваімі псеўдададасягненнямі, а з самага пачатку па-сапраўднаму пачалі рэфармаваць нашу эканоміку, народную гаспадарку, навуку, культуру, па-сяброўскі адносіліся да сваіх суседзяў, - вынікі былі б зусім іншыя. І зусім не адмоўныя, як нехта можа падумаць, а вельмі нават дадатныя. За прыкладамі далёка хадзіць ня трэба. А так - яшчэ ляцець нам ўніз доўга. А калі чмякнемся, будзе вельмі балюча.

***Сямён Панізоўцаў***

## РАБОЧИЙ ЗАВОДА В МОГИЛЕВЕ УСТАНОВИЛ МИРОВОЙ РЕКОРД СИЛЫ

Рекорд сварщик Виталий Ситников посвятил металлургическому предприятию, на котором работает. Силач толкнул гирю весом 32 килограмма две с половиной тысячи раз, на это ему понадобилось три часа.

“В гире скрывается огромная сила, как разум, как традиции, так и чисто физическая. Ты ее разогнал, а она сама ведёт дальше руку. Ты её должен остановить просто вовремя”, - цитирует рекордсмена СТВ.

Кстати, у Виталия Ситникова есть еще одно хобби - он коллекционирует гири.

А рекорд будет зафиксирован в Книге рекордов Гиннесса.

### Анекдот дня

*Муж - это мужчина, который видел вас пьяной, голой, без макияжа, ревущей, говорящей всякую херню, и, как ни странно, до сих пор живущий с вами...*

## БЕРЕМЕННАЯ МОГИЛЕВЧАНКА УКРАЛА ДЕНЬГИ У АКУШЕРКИ И НАПИЛАСЬ НА НИХ



Беременная могилевчанка пришла в Могилевскую городскую больницу скорой медицинской помощи, чтобы заверить медицинскую справку. Проходя по коридору, она увидела, что дверь одного из кабинетов открыта, но никого из персонала в нем нет.

Будущая мама, ранее уже судимая за кражи, не смогла преодолеть соблазн: она зашла в кабинет, вытащила из лежавшей там сумки кошелек и отправилась дальше решать свои вопросы.

Вернувшись домой, 26-летняя горожанка пересчитала похищенные деньги — в кошельке оказалось 400 тыс. рублей. Не долго раздумывая, женщина отправилась их тратить. Прикупив спиртного, беременная могилевчанка пошла к своей приятельнице. Там будущую маму, уже успевшую выпить, и разыскали сотрудники милиции. Часть денег удалось вернуть законной владелице — акушерке больницы. Нечистой на руку пациентке предстоит понести наказание. За кражу, совершенную повторно, действующим законодательством предусматривается максимальная ответственность в виде лишения свободы на срок до 4 лет.

***mycity.by***

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 01.12.2012 г. у 10-00.